• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

**26** лістапада 1998 г. чацвер № 230 (23581)



# ЗВЯЗДА

## ЗДАРОЎЕ ЗА РУБЛІ НЕ КУПІШ. ТОЛЬКІ ЗА ВАЛЮТУ?

Як вядома, апошнім часам у рэспубліцы склалася даволі цяжкае становішча з забеспячэннем беларускіх аптэк лекавымі прэпаратамі. Пры гадавой патрэбнасці Беларусі ў леках на суму ў 150—170 мільёнаў долараў ЗША на сённяшні дзень іх закуплена за мяжою толькі на 80 мільёнаў долараў. Акрамя таго, з-за абмежаваных магчымасцяў па канвертацыі беларускага рубля стварылася запазычанасць замежным пастаўшчыкам за раней пастаўленую прадукцыю.

У сувязі з гэтым Рэспубліканскім штабам пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь зараз разглядаюцца розныя меры, здольныя зняць праблему «лекавага голаду» у нашай краіне. І адно з апошніх рашэнняў штаба — наладзіць у дзяржаўных аптэках гандаль лекамі за валюту.

Якім чынам яна будзе ажыццяўляцца, даведацца падрабязна ў Рэспубліканскім аб'яднанні «Фармацыя» не ўдалося. Па словах генеральнага дырэктара аб'яднання Марыі Шалаевай, на атрыманне ліцэнзіі ад Нацбанка на валютны гандаль спатрэбіцца як мінімум месяц. За гэты час будуць вызначаны аптэкі, у якіх з'явяцца валютныя аддзелы, іх колькасць, дата адкрыцця, умовы работы і інш.

Сёння можна сказаць толькі адно: продаж лекаў за валюту, па задуме аўтараў гэтага новаўвядзення, павінен спрыяць пашырэнню асартыменту ў аптэках. Для радавога беларуса гэта азначае галоўным чынам толькі тое, што калі ў яго кішэні знойдуцца «зялёненькія», то ягоныя шанцы знайсці неабходны лекавы прэпарат у аптэчных установах значна павялічацца, бо ў валютных аддзелах будзе прадстаўлены пашыраны асартымент лекаў, у тым ліку і вострадэфіцытных. Рэспубліканскае ж аб'яднанне «Фармацыя» ў сваю чаргу нарэшце атрымае неабходную для разлікаў з замежнымі партнёрамі валюту.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## НА РЫНКАХ ТАКСАМА БУДУЦЬ НОРМЫ ВОДПУСКУ?

Згодна з рашэннем Мінгарвыканкама ад 18 лістапада кіраўнікам адміністрацый сумесна з кіраўніцтвам прамысловых прадпрыемстваў даручана арганізаваць у сталіцы работу сталоў заказаў. Новаўвядзенне павінна забяспечыць работнікаў фабрык і заводаў асноўнымі прадуктамі харчавання. Ажыццяўляцца работа сталоў заказаў павінна праз заводскія прадпрыемствы грамадскага харчавання і выязны гандаль.

Гэтым жа рашэннем, у прыватнасці, уводзіцца жорсткі кантроль за работай міні-рынкаў, кіёскаў і ларкоў. Так, разам з недапушчэннем гандлю несертыфікаваным таварам і арганізацыяй належных санітарных умоў яны павінны захоўваць нормы водпуску.

На жаль, нягледзячы на тое, што гэты дакумент быў прыняты яшчэ 18 лістапада, нам не ўдалося атрымаць больш падрабязныя каментары па адзначаных пытаннях. У галоўным упраўленні спажывецкага рынку Мінгарвыканкама ўсе спасылаліся на адсутнасць афіцыйных папер на гэты конт, маўляў, яшчэ не атрымалі. А тлумачэнні, пагадзіцеся, былі б не лішнімі. Як нехта трапна заўважыў, у краіне вырасла цэлае пакаленне, якому невядома, што такое чэргі. Дзе ж тут ведаць пра сталы заказаў? Хіба толькі бацькам ды бабулям з дзядулямі яны вядомыя. Тое ж і ў дачыненні да нормаў на міні-рынках. Калі раней чалавек мог набыць тое, чаго няма ў дзяржгандлі або там яно каштуе даражэй, у камерсантаў, прычым у неабмежаванай колькасці, дык цяпер як?! І ці выгадны такі гандаль будзе для апошніх, не кажучы ўжо нават аб простых пакупніках?..

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



*Кветкі зімовыя.*
Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## ВЫБІРАЮЦЬ МЕСЦАМ ЖЫХАРСТВА БЕЛАРУСЬ

У Беларусі на 1 кастрычніка 1998 года пражывала 10 мільёнаў 186,5 тысячы чалавек. Статыстыка адзначае, што працэс скарачэння колькасці ў гэты перыяд у нас па-ранейшаму працягваўся, але ў параўнанні з мінулым годам крыху запаволіўся. За гэты ж час у Беларусь на пастаяннае месца жыхарства прыбыло 23.027 чалавек. З Расіі да нас прыехалі 13.003 чалавекі, з Казахстана — 2859. А з Беларусі выехалі за дзевяць месяцаў 9919 чалавек. З іх 4568 выбралі новым месцам жыхарства Расію. Усяго ж за гэты перыяд памянялі прапіску на краіны СНД і Балты 5860 жыхароў Беларусі.

Скараціўся сёлета працэс эміграцыі грамадзян Беларусі ў краіны далёкага замежжа. Колькасць тых, хто выбыў у Ізраіль, ЗША, Германію, зменшылася ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 860 чалавек.

**Тацццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

*КРЫМІНАЛ*

## «МЯККІ» ПРЫГАВОР АДМЕНЕНЫ

**По пратэсту пракуратуры Мінска ў сувязі з мяккасцю назначанага пакарання адменены прыгавор суда Савецкага раёна сталіцы ў адносінах да грамадзяніна Гардзея.**

Ён быў аштрафаваны на 120 млн. рублёў за парушэнне ўстаноўленага парадку ажыццяўлення валютных аперацый. Пры затрыманні ў Гардзея было канфіскавана 10 285 долараў ЗША, 1200 марак ФРГ, 700 расійскіх рублёў, 62 млн. беларускіх рублёў. Гэта сведчыць аб тым, што ён сістэматычна займаўся незаконнымі валютна-абменнымі аперацыямі, аднак канфіскаваная валюта па прыгавору суда Гардзею была вернута.

Пракуратурай Гомельскай вобласці завершана следства і крымінальная справа накіравана ў суд у адносінах да галоўнага інспектара Гомельскай мытні Е.

Мытнік абвінавачваецца ў вымаганні ў дырэктара прыватнага прадпрыемства «Полкар-Імпекс» хабару ў памеры 2500 долараў ЗША за спрыянне ў вырашэнні пытанняў пры растаможванні грузаў, якія паступаюць на адрас прыватнага прадпрыемства. Абвінавачваемы пракуратурай арыштаваны і ўтрымліваецца ў следчым ізалятары.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**прэс-цэнтр Пракуратуры Беларусі.**

*Іван ПАШКЕВІЧ:*

## «МЭТА ІДЭАЛАГІЧНАЙ «ВЕРТЫКАЛІ» — ТЛУМАЧЭННЕ ЛЮДЗЯМ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАЗІЦЫІ»

Учора ў Магілёве адбылася нарада інфармацыйнага актыву вобласці з удзелам намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Івана Пашкевіча, а таксама міністра сацыяльнай аховы Вольгі Даргель, міністра адукацыі Васіля Стражава, міністра культуры Аляксандра Сасноўскага і міністра спорту і турызму Мікалая Ананьева.

Нарада ў Магілёве завяршыла цыкл сустрэч ва ўсіх абласцях і сталіцы з рэспубліканскім актывам, які прызначаны займацца інфармаваннем і грамадскімі сувязямі, непасрэдна працаваць з людзьмі ў «нізавых» працоўных калектывах. Ва ўсіх гэтых нарадах, па інфармацыі Івана Пашкевіча, прынялі ўдзел больш за чатыры тысячы чалавек, якія ўваходзяць у «вертыкаль» ідэалагічных супрацоўнікаў.

Сёння ў Беларусі канчаткова створана сістэма інфармацыйнай работы з насельніцтвам: акрамя ўпраўленняў і аддзелаў у структуры выканаўчай улады, на прадпрыемствах, дзе працуе больш за трыста чалавек, і ў сельскіх гаспадарках з колькасцю работнікаў больш за сто ўведзены пасады намеснікаў кіраўнікоў па інфармаванню і грамадскіх сувязях. Адноўлены стаўкі выхавацеляў у школах для арганізацыі дзіцячага руху, адбываецца рэанімацыя структур таварыства «Веды»...

— Мы стварылі важнае звяно ў сістэме дзяржаўнага кіравання, якога не хапала, — сказаў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Іван Пашкевіч. — Такі падыход выклікаў, мякка кажучы, неадназначную ацэнку, крытыку з боку апанентаў, апазіцыі: рабіліся заявы,

(Заканчэнне на 5-й стар.).

## УВАГА: «Прамая лінія»!

***Вам адкажа міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Васільевіч БАТУРА.***

Усіх нас, вядома, хвалююць шматлікія штодзённыя жыллёвыя пытанні. Ці будзе цёпла ў кватэрах, якой вадой мы будзем карыстацца, колькі прыйдзецца плаціць у далейшым за камунальныя паслугі — колькасць праблем амаль астранамічная.

Магчыма, больш хутканму і дзейснаму іх вырашэнню паспрыяе ваша асабістая размова з міністрам жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барысам Батурам. «Прамую лінію» з яго ўдзелам «Звязда» праводзіць ***10 снежня з 14 да 15 гадзін.*** Задаць свае пытанні міністру ў гэты час можна па тэлефонах: ***(8-017) 232-38-21, 232-38-92.*** Папярэдне чакаем вашых званкоў па тэлефоне (8-017) 268-27-51 і пісьмовых зваротаў на адрас рэдакцыі: *220013, г. Мінск, вуліца Б.Хмяльніцкага, 10А, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*Усміхнемся!*





Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

*У час заручынаў маці нявесты расхвальвае сваю дачку маме будучага мужа:*

*— Мая прыгажуня танцуе, як балерына, водзіць аўтамабіль, як запраўскі шафёр, гарцуе на кані, як кавалерыст.*

*— Нічога, як-небудзь перажывём. Мой сын, на шчасце, умее крыху гатаваць.*

## БЮДЖЭТНІКАМ БУДУЦЬ ПЕРАРАЗЛІЧАНЫ АКЛАДЫ. УЖО ЛІСТАПАДАЎСКІЯ

**Згодна са спецыяльнай пастановай Савета Міністраў, каб забяспечыць кампенсацыю інфляцыйных страт, з 1 лістапада ў краіне павінны быць уведзены павышаючыя каэфіцыенты да тарыфных ставак і акладаў работнікам бюджэтнай сферы. Апроч таго, найменш аплачваемыя работнікі гэтай катэгорыі насельніцтва атрымаюць кампенсацыю ў выглядзе фіксаваных даплат. Учора стала вядома велічыня гэтай кампенсацыі.**

***Павышаючыя каэфіцыенты у памерах:***

з 1-га па 2-гі разрад —1,25
звыш 2-га па 4-ты разрад —1,24
звыш 4-га па 7-мы разрад —1,23
звыш 7-га па 12-ты разрад —1,22
звыш 12-га па 17-ты разрад —1,21
звыш 17-га па 18-ты разрад —1,20
звыш 18-га па 19-ты разрад — 1,195
звыш 19-га па 20-ты разрад — 1,185
звыш 20-га па 21-шы разрад — 1,17
звыш 21-га па 22-гі разрад — 1,165
звыш 22-га па 23-ці разрад — 1,155
звыш 23-га па 24-ты разрад — 1,15
звыш 24-га па 25-ты разрад — 1,145
звыш 25-га па 26-ты разрад — 1,14
звыш 26-га па 27-мы разрад — 1,135
звыш 27-га па 28-мы разрад — 1,13.

***Фіксаваныя даплаты:***

па 1-му разраду — 600.000 руб.
звыш 1-га па 2-гі разрад — 540.000 руб.
звыш 2-га па 3-ці разрад — 490.000 руб.
звыш 3-га па 4-ты разрад — 380.000 руб.
звыш 4-га па 5-ты разрад — 335.000 руб.
звыш 5-га па 6-ты разрад — 260.000 руб.
звыш 6-га па 7-мы разрад — 240.000 руб.
звыш 7-га па 8-мы разрад — 230.000 руб.
звыш 8-га па 9-ты разрад — 220.000 руб.
звыш 9-га па 10-ты разрад— 200.000 руб.
звыш 10-га па 11-ы разрад— 170.000 руб.
звыш 11-га па 12-ты разрад— 140.000 руб.
звыш 12-га па 13-ты разрад— 130.000 руб.
звыш 13-га па 14-ты разрад— 100.000 руб.
звыш 14-га па 15-ты разрад— 70.000 руб.
звыш 15-га па 16-ты разрад— 30.000 руб.

Варта таксама нагадаць, што з 1 лістапада плануецца правесці пераразлік некаторых іншых бюджэтных выплат. У прыватнасці, на 20 працэнтаў павысяцца стыпендыі студэнтам і навучэнцам дзяржаўных вышэйшых, сярэдніх і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

На тыя ж 20 працэнтаў узрастуць дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі грамадзянам, якія праходзяць прафесійную перападрыхтоўку па накіраванню службы занятасці.

**Сяргей ГРЫБ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 25 ЛІСТАПАДА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 113900 | 114000 | 66630 | 66660 | 6440 | 6540 | 216-23-91 |
| Тэхнабанк | 113000 | 114000 | 66100 | 66500 | 6300 | 6500 | 283-15-00 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 77000,00 | | 45209,02 | | 4410,00 | | Курс на 26.11.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 17,470 | | 10,2560 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваць ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

**Працягваецца падпіска на «Звязду» на I паўгоддзе 1999 года.**

**Кошт камплекта газеты на 1 месяц:**

**для індывідуальных падпісчыкаў — 48 тысяч рублёў (індэкс 63850),**

**для арганізацый — 150 тысяч рублёў (індэкс 63239);**

**на 3 месяцы — 144 тысячы і 450 тысяч адпаведна.**

***ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ!***

## Галоўны банк купляе валюту па дагаворнай цане

**Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь дазволіў сваім галоўным упраўленням па абласцях і гораду Мінску купляць у суб'ектаў гаспадарання і насельніцтва безнаяўную замежную валюту (СКВ) і расійскія рублі па дагаворнай цане.**

Кошт аднаго долара будзе вызначацца па курсу, які складваецца на пазабіржавым рынку. Пры гэтым розніца паміж афіцыйным курсам і курсам здзелкі падаткам не абкладаецца.

Мінімальная сума продажу для юрыдычных асоб складае дзесяць тысяч долараў ці эквівалентную суму ў іншай СКВ, для насельніцтва — дзве тысячы.

Такое рашэнне прынята ў мэтах выканання праграмы неадкладных мераў па стабілізацыі валютнага рынку і абменнага курса беларускага рубля, удасканалення легальнага рынку замежнай валюты і папаўнення золатавалютных рэзерваў.

## «Фандок» аднаўляе свой імідж

**У шэрагах устойліва рэнтабельных прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай галіны зноў заняў сваё месца бабруйскі «Фандок», які яшчэ ў пазамінулым годзе быў стратным, або той самы «Фандок», вакол якога ў свой час разгарэўся вядомы скандал у сувязі з аўстрыйскім крэдытам.**

Коратка ж сутнасць справы заключалася ў наступным: прадпрыемства, ці, дакладней, акцыянернае таварыства «Фандок», узяло буйны замежны валютны крэдыт на мадэрнізацыю і тэхнічнае абнаўленне, развіццё вытворчасці (дарэчы, крэдыт, па словах спецыялістаў «Фандока», цалкам выкарыстаны па прызначэнню), за які, аднак, як аказалася з цягам часу, самастойна разлічыцца не магло. У справу ўмяшаліся прэзідэнт і ўрад рэспублікі, «Фандоку» была аказана пэўная дапамога, амаль палова яго акцый адышла дзяржаве, на «Фандоку» было зменена кіраўніцтва...

Цяпер «Фандок» набыў добры дынамізм (так, сёлета тэмп росту вытворчасці тут склаў 121 працэнт), 30 працэнтаў сваёй прадукцыі адпраўляе на экспарт. Як зазначыла намеснік генеральнага дырэктара па эканоміцы Ірына Канепа, на «Фандоку» памяняліся метады гаспадарання. Тут некалі было шмат даччыных, юрыдычна самастойных прадпрыемстваў, якія з'явіліся пры рэарганізацыі «Фандока» падчас заснавання АТ, — цяпер яны зноў сталі структурнымі падраздзяленнямі адзінага прадпрыемства. На прадпрыемстве шмат робяць па эканоміі энергарэсурсаў, якія займаюць важкую долю ў сабекошце прадукцыі, пры гэтым ухіл робіцца на выпрацоўку ўласнай цеплавой энергіі і адмову ад гарадской, значна даражэйшай. Асаблівы гонар фандокаўцаў — іх сацыяльна-бытавы комплекс. Пры гэтым калі многія прадпрыемствы цяпер настойліва адмаўляюцца ад утрымання аб'ектаў сацыяльна-бытавога прызначэння (што, увогуле, цалкам лагічна), дык на «Фандоку» пайшлі па іншаму шляху: тут зрабілі ўхіл на іх максімальную акупнасць. І гэта, па словах кіраўніка сацыяльна-бытавога комплексу Мікалая Печанко, удаецца. Больш таго, пры сацыяльна-бытавым комплексе створана свая камерцыйная служба, якая нават забяспечвае работнікаў «Фандока» больш таннымі, чым у горадзе, прадуктамі харчавання. Праўда, усё гэта ў рэшце рэшт трымаецца на эканамічнай трываласці самога «Фандока», яго вытворчасці. А яго трываласць, тут жа варта падкрэсліць, падточваецца адпаведнай цэнавай палітыкай, у выніку якой прадпрыемства вымушана аддаваць сваю прадукцыю на ўнутраны рынак па цэнах, ніжэйшых за яе сабекошт — адпаведныя выдаткі перакрываюцца толькі за кошт экспарту. Аднак ці разумна гэта? Зрэшты, гэта праблема характэрная для ўсёй дрэваапрацоўчай галіны.

**Іван АЛЯКСАНДРАЎ.**

**Сёння сітуацыя ў нашай эканоміцы, сітуацыя на спажывецкім рынку як асобным сегменце эканомікі — няпростая. Што адбываецца з імі? Гэту сітуацыю спрабуе асэнсаваць у гутарцы з карэспандэнтам газеты эканамічны эксперт «Звязды», загадчык аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук, кандыдат эканамічных навук Аляксандр ЛУЧАНОК.**

# АСЭНСАВАННЕ СІТУАЦЫІ — НАЙПЕРШАЯ ЎМОВА ВЫХАДУ З ЯЕ

**— Аляксандр Іванавіч, што адбываецца са спажывецкім рынкам рэспублікі, які яўна трасе, а разам з тым цэны на якім усё болей зашкальваюць; як вы пракаменціруеце апошняе павышэнне цэн на гарэлку, на погляд многіх, — зусім мала ўвязанае з даходамі людзей, павышэнне, якое прыводзіць да амаль філасофскага пытання: «піць або не піць?»**

— Пачнём з гарэлкі. Павышэнне цэн на яе — цалкам лагічнае з пункту погляду фарміравання даходаў бюджэту. Пры гэтым і новая цана гарэлкі — не такая ўжо высокая: калі зыходзіць з рэальнага валютнага курса — каля аднаго долара. Гарэлка заўсёды прыкладна столькі каштавала (між іншым, падняўшы цану на гарэлку да новага ўзроўню, улады міжволі прызналі рэальную цану, рэальны курс долара). Іншая справа — сапраўды, як увязваецца новая цана з нашымі даходамі, асабліва даходамі ў бюджэтнай сферы?..

Увогуле ж, калі рэальны валютны курс вырас са жніўня ў 3 разы, калі, нягледзячы на стрымліванне, адбыўся яўна абвальны рост цэн на многія тавары, то даходы ў абсалютнай большасці насельніцтва гэтак жа не выраслі; відавочна, не выратуе іх і абяцаная кампенсацыя. Думаю, што мы ў многім расплачваемся за недастаткова прадуманую палітыку ўрада і Нацыянальнага банка (нездарма прэзідэнт рэспублікі апошнім часам вельмі крытычна выказваўся адносна дзейнасці ўрада).

Што датычыць напоўненасці спажывецкага рынку, думаю, перабоі і ажыятаж, якія бываюць на ім апошнім часам, у многім справакаваныя цэнтралізаванымі масіраванымі пастаўкамі тавараў у Расію — пераважна ў лік аплаты за энергарэсурсы. Гэта і прывяло да дэфіцыту.

**— Аднак існуе ўстойлівае меркаванне, што, маўляў, ледзь не ўсё вывозяць «чаўнакі», барацьба з якімі набыла маштабны і даволі сумніўны характар...**

— Ну, «чаўнакам» такое адназначна не па сіле, тым больш калі ўлічваць цяперашні сапраўды маштабны дарожны кантроль, які, між іншым, у пэўнай меры можна зразумець: на асобныя тавары мы маем жорстка кантралюемыя, адносна нізкія цэны, а г. зн. з нейчага боку даціруемыя — або з боку вытворцаў, або з боку дзяржавы. Разам з тым, падобнымі адміністрацыйнымі метадамі праблему не вырашыць, і гэта, здаецца, нарэшце пачынаюць разумець і нашы ўлады. Гэтыя адміністрацыйныя метады, сапраўды, увогуле сумніўныя.

**— Цяпер у нашых асобных бедах нярэдка спасылаюцца на Расію: маўляў, гэта іх крызіс гэтак непрыемна ўплывае на нас, уплывае на агульны стан нашай эканомікі, а значыць і на той жа спажывецкі рынак, які з'яўляецца неад'емнай часткай усёй эканомікі...**

— Так, апошнім часам агульны стан нашай эканомікі не схіляе да аптымізму: на прадпрыемствах рэзка павялічыліся выдаткі на выпуск прадукцыі і, адпаведна, гэтак жа рэзка знізілася рэнтабельнасць. І трэба прызнаць: сапраўды, на нас у немалой ступені паўплываў расійскі фінансавы крызіс, а г. зн. наша пераважная арыентацыя на Расію. Нельга адмаўляць яе як нашага галоўнага гандлёва-эканамічнага партнёра, але пры гэтым варта арыентавацца на многія краіны. Мы ў выніку не мелі б і такога абвальнага падзення беларускага рубля і, адпаведна, яўнага пагаршэння ўзроўню жыцця людзей, хоць, дарэчы, органы статыстыкі маюць на гэты конт (адносна ўзроўню) свой пункт погляду...

Разам з тым, тое ж падзенне рубля звязана не толькі з Расіяй, але і з недастаткова прадуманай унутранай эканамічнай стратэгіяй. У нас чамусьці вырашылі: усе беды вытворцаў — ад недахвату ў іх грошай, маўляў, трэба неадкладна павысіць манетызацыю эканомікі. У выніку два апошнія гады аб'ём грошай у абарачэнні павялічваецца як мінімум у 2 разы штогод. Аднак простае павелічэнне аб'ёмаў грашовай масы нашых агульных эканамічных праблем не вырашае і не можа вырашыць (за выключэннем хіба праблем асобных прадпрыемстваў). Гэта — скрытае пераразмеркаванне сродкаў менавіта на карысць асобна ўзятых прадпрыемстваў за кошт астатніх прадпрыемстваў і краіны ў цэлым, за кошт яе грамадзян. Адкуль цяперашняя інфляцыя, якая і з'яўляецца своеасаблівым дадатковым падаткам на даходы грамадзян? Гэта ў рэшце рэшт выплюхнуліся ў свабоднае абарачэнне «голыя» эмісійныя грошы нашага галоўнага банка і пачалі рабіць адпаведную справу. Яны ж, гэтыя грошы, пачалі з яшчэ большай сілай ціснуць на валютны рынак і, адпаведна, на рост курса долара. Можна нешта дзяліць паміж інвестыцыямі ў вытворчасць і іншыя сферы і сродкамі на спажыванне, калі толькі гэта будзе рэальна выраблены прадукт, а не «голыя» грашовыя эмісіі. Лічу, што асноўная праблема ўсёй нашай эканомікі — у няправільнай палітыцы ў крэдытна-грашовай сферы ўвогуле і ў валютнай сферы — у прыватнасці.

**— Вы ўваходзілі ў састаў экспертнай групы, якая збіралася нядаўна па ініцыятыве ўрада і якая распрацоўвала магчымыя накірункі валютнай палітыкі, а прасцей кажучы — пытанне адносна таго, што рабіць з беларускім рублём, пускаць яго ў свабоднае плаванне ці не? Якое прынята рашэнне?**

— На жаль, эксперты не вырашаюць... А ўвогуле яны прапанавалі некалькі варыянтаў, найбольш аптымальным з якіх, лічу, быў бы наступны: паступовае збліжэнне афіцыйнага і рыначнага валютнага курсаў праз арганізацыю дадатковых таргоў на Міжбанкаўскай валютнай біржы і вызначэннем курса па другой сесіі, зыходзячы з попыту і прапанавання, пераход, у рэшце рэшт, да адзінага курса. Які варыянт будзе выбраны — невядома. Тут жа падкрэслю: усе абмежаванні, да якіх апошнім часам звяртаўся Нацыянальны банк, толькі ўскладнялі становішча на валютным рынку. Усе яго меры, па сутнасці, задавальняюць адных толькі імпарцёраў так званага крытычнага імпарту, пры гэтым, зразумела, за кошт астатніх. Але ж эканоміка абапіраецца не толькі на іх, на «крытычных» імпарцёраў.

**— Аляксандр Іванавіч, ці не здаецца вам, што цяпер наша эканоміка знаходзіцца на нейкім раздарожжы — па якому шляху ісці: поўнага дзяржаўнага рэгулявання ці пераважна рыначных метадаў вядзення гаспадаркі?**

— Я не думаю, што такі выбар стаіць перад эканамістамі, якія добра разумеюць эканамічныя працэсы, хоць перад самой дзяржавай падобны выбар і быў, і застаецца. ... А яна павінна ўзяць на сябе функцыі ў асноўным па агульнаму эканамічнаму рэгуляванню, а таксама па абароне даходаў насельніцтва праз своечасовую і поўную іх індэксацыю; дзяржава павінна дакладна збіраць падаткі і пераразмяркоўваць іх на карысць таго ж насельніцтва, а не спрабаваць камандаваць эканомікай, што было ўжо раней. Найпершая ўмова выхаду з цяперашняга нялёгкага эканамічнага становішча — дазволіць суб'ектам гаспадарыць самастойна, а значыць — і эфектыўна, дазволіць самастойна распараджацца выпрабленай прадукцыяй, свабодна вызначаць цэны на яе, свабодна купляць і прадаваць заробленую валюту. І не дай Божа кіравацца ў чым-небудзь (скажам, у справе разрадкі той жа сітуацыі на спажывецкім рынку) «рэвалюцыйнай мэтазгоднасцю»... На жаль, гэтыя, здавалася б, прапісныя ісціны зноў прыходзіцца нагадваць, але гэта трэба рабіць. Тыя сігналы, якія нам ужо падае спажывецкі рынак, сведчаць: у эканоміцы не ўсё добра, у нашу агульную эканамічную стратэгію трэба ўносіць неадкладныя карэктывы. І пра гэта эканамістам трэба гаварыць, а не адмоўчвацца, што, на вялікі жаль, цяпер мае месца. Ужо само асэнсаванне сітуацыі, як мага найбольш прынцыповае і аб'ектыўнае, — найпершая ўмова выхаду з яе.

**Гутарыў Іван БАРАНОЎСКІ.**

*Крымінал*

# НАБЕГІ НА ЭНЕРГЕТЫКАЎ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

Наўрад ці ўяўляў сабе вартаўнік электрападстанцыі, што ў вёсцы Белая Лужа Смалявіцкага раёна, усіх наступстваў таго нягучнага стуку ў акно, які пачуўся ў мінулую пятніцу недзе каля 21 гадзіны вечара. Ва ўсякім разе, не спяшаўся б адчыняць дзверы. Хаця, па вялікаму рахунку, баяцца асаблівых падстаў не было: падстанцыя добра агароджана, да таго ж пастукалі ў акно з вуліцы, а дзверы выходзілі на агароджаны двор.

Ледзь паспеў адчыніць дзверы, як убачыў на ганку дваіх незнаёмцаў. Лагічным было пытанне: «Што вам трэба?». У адказ нечым цяжкім ударылі па галаве. Біў трэці, які стаяў за дзвярыма. Як падкошаны, вартаўнік паваліўся на ганак. Адзін з нападаючых прыставіў нож да горла сваёй ахвяры:

— Выклікай дзяжурнага падстанцыі.

— Але ж ён мяне не паслухае, — паспрабаваў было запярэчыць вартаўнік.

Рабаўнік тут жа прадэманстраваў, што яны не жартуюць. Прыйшлося набіраць нумар тэлефона дзяжурнага інжынера.

— Прыходзь да мяне. Справа ёсць, — сказаў вартаўнік.

— Сам ідзі, — адказаў той.

Давялося ўгаворваць. І вось пачулася ў адказ:

— Добра, чакай. Хутка буду.

Гэта была яшчэ адна памылка. Ва ўсякім разе, спяшацца яму не варта было.

— У чым справа? — убачыўшы незнаёмцаў, спытаў інжынер.

І тут жа — удар у скіўцу. Ачомаўся ўжо на падлозе.

— Яшчэ ёсць хто-небудзь на падстанцыі? — злосна спыталі зламыснікі.

— Толькі мы двое, — адказаў інжынер.

Злачынцы звязалі іх. Адзін з тых, які быў з нажом, застаўся вартаваць ахвяр. Астатнія забралі ключы ад варот падстанцыі. Неўзабаве ў двор заехаў вялікі грузавік, а з ім і пад'ёмны кран. Яны пад'ехалі да месца, дзе ляжалі барабаны з дротам АС, і пачалі грузіць іх у машыну. Усяго ўзялі 8 тон 793 кілаграмы дроту на суму больш як 7 мільярдаў рублёў.

Праз некалькі хвілін дзяжурнаму інжынеру ўдалося вызваліцца ад путаў. Развязаў вартаўніка, потым пачаў званіць: спярша ў міліцыю, затым кіраўніцтву Барысаўскіх электрасетак. Менавіта гэта арганізацыя абслугоўвае тую падстанцыю ў вёсцы Белая Лужа. Неўзабаве дырэктар прыбыў на месца здарэння, а ўслед за ім — і нарад міліцыі. Была ўзбуджана крымінальная справа. Але рабаўнікі з дротам бы ў ваду канулі.

Ва ўсякім разе, як патлумачыў па тэлефоне прадстаўнік Барысаўскіх электрасетак, да гэтага часу дрот не знайшлі, хаця пошукі працягваюцца. Здзіўляе нахабства, дзёрзкасць злачынства. Да таго ж яно было добра спланавана: зламыснікі своечасова падагналі кран і грузавік. Па ўсім бачна, не было ў іх цяжкасцяў і са збытам крадзенага — цэны на дрот і кабель апошнім часам павялічыліся ў некалькі разоў.

Набегі на энергетыкаў працягваюцца. Некалькі тыдняў таму здарылася буйная аварыя на Мінскай ЦЭЦ-3, якая ледзь не прывяла да катастрофы. Ва ўсякім разе, без святла і часткова без цяпла амаль на цэлую ноч засталіся многія жылыя дамы. Дзякуючы каласальным намаганням, у першую чаргу энергетыкаў Мінскіх кабельных сетак і самой станцыі, удалося хутка аднавіць работу ЦЭЦ і да мінімуму звесці страты ад аварыі. Хаця і яны велізарныя.

А ўсё пачалося з таго, што зламыснікі спрабавалі выкрасці кабель на ЦЭЦ. Некалькі кабеляў, што ляжалі там, былі абясточаны, а таму рабаўнікі секлі іх сякерай. І раптам адзін з кабеляў аказаўся пад напругай. Кароткае замыканне, пажар... Пад пагрозай поўнага выхаду са строю аказалася ўся цеплаэлектрацэнтраль. Энергетыкам нейкім цудам удалося прадухіліць катастрофу. Яны перавялі на аварыйнае электразабеспячэнне некалькі буйных прадпрыемстваў. Змаглі за ноч падаць у кватэры святло і цяпло. Да таго ж на вуліцы тады яшчэ была плюсавая тэмпература. А калі б пад 20 градусаў марозу, як цяпер? Поўны ж выхад са строю Мінскай ЦЭЦ-3, ды яшчэ зімой, мог наогул прывесці да непапраўных вынікаў. Вось яна, цана набегаў на электрападстанцыі! Зламыснікаў у першую чаргу цікавіць медны дрот. Іх не хвалююць вынікі падобных дзеянняў. Але гэта ўжо справа адпаведных органаў. Міліцыя, пракуратура, думаецца, разбяруцца з гэтым і дадуць належную ацэнку таму, што здарылася.

Добра, што ў свой час беларускі прэзідэнт выдаў указ аб забароне прыватнага гандлю каляровымі металамі, размяшчэнні рэкламных аб'яў у сродках масавай інфармацыі аб прыёме прыватнікамі металалому. Пасля гэтага значна пацішэла, зменшылася колькасць набегаў на электрападстанцыі. Аднак у суседняй Расіі ўсё засталося па-ранейшаму. А паколькі кардоны адсутнічаюць, злачынцы вязуць нарабаванае туды. Думаецца, трэба прыняць яшчэ больш жорсткія меры — аж да ўвядзення крымінальнай адказнасці за спробы несанкцыяніраванага вывазу металалому.

Важна паклапаціцца таксама пра далейшае ўмацаванне энергетычнай службы. Добра, што ў тую злашчасную ноч у мінскіх энергетыкаў хапіла сіл справіцца з бядой. А раптам нечага б забракавала? Не хапіла б вопытных спецыялістаў, матэрыяльных рэсурсаў, каб ліквідаваць аварыю? Што тады чакала б нас?

**Уладзімір ГОЙТАН.**

## БЮДЖЭТНЫЯ РАСХОДЫ — ПАД СТРОГІ КАНТРОЛЬ

**На пашыранай калегіі Міністэрства фінансаў абмеркаваны дадатковыя меры па скарачэнню бюджэтных расходаў, мэтаваму і эфектыўнаму выкарыстанню бюджэтных сродкаў у святле патрабаванняў прэзідэнта на нарадзе аб сітуацыі на спажывецкім рынку рэспублікі. Таксама разгледжаны мерапрыемствы па павелічэнню даходаў бюджэту, у прыватнасці, павышэнню збірання падаткаў.**

За дзесяць месяцаў у цэлым забяспечана выкананне адпаведнага плана, разам з тым у апошнія месяцы адзначана зніжэнне паступлення шэрагу падаткаў у бюджэт. Намечана актывізаваць спагнанне запазычанасці, акумуліраваць у бюджэце частку сродкаў небюджэтных фондаў; унесены прапановы па перагляду падаткаабкладання асобных даходаў.

Да новага года мяркуецца правесці перарэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання, якія маюць падатковыя льготы: суб'екты павінны абгрунтаваць неабходнасць такіх ільгот у наступным годзе.

Даручана ў дзесяцідзённы тэрмін прааналізаваць стан сродкаў на валютных рахунках органаў дзяржкіравання, пры гэтым свабодныя сродкі — аднавіць на рахунках рэспубліканскага бюджэту. Да канца года неабходна завяршыць інвентарызацыю бюджэтных рахункаў рэспубліканскіх бюджэтных арганізацый і ўстаноў і перавесці іх у дзяржказначэйства.

І ў рашэнне калегіі Міністэрства фінансаў, і ў праект пастановы Савета Міністраў уключаны шэраг мераў па крайне жорсткаму абмежаванню бюджэтных расходаў, якія, г. зн. меры, практычна азначаюць пераход да канца года на асаблівы рэжым фінансавання. У адпаведнасці з імі ў поўным аб'ёме фінансуюцца толькі абароненыя артыкулы бюджэту — зарплата, харчаванне, медыкаменты, энергетыка і г. д. Расходы па іншых артыкулах неабходна абгрунтаваць у абласных фінансавых упраўленнях і Міністэрстве фінансаў. Аднак, як падкрэсліў міністр фінансаў Мікалай Корбут, неабходна па магчымасці закончыць усе пачатыя капітальныя рамонты, закупіць і ўстанавіць тэхналагічнае і медыцынскае абсталяванне.

Разгледжана пытанне аб безумоўнай забароне набыцця службовага транспарту, мэблі і абсталявання для кабінетаў за кошт бюджэтных сродкаў, недапушчэнні іх нямэтавага выкарыстання.

Будуць уведзены абмежаванні фінансавання расходаў на загранкамандзіроўкі, у тым ліку ў дзяржавы СНД, — для служачых органаў дзяржкіравання, супрацоўнікаў бюджэтных устаноў і арганізацый.

Кіраўнікам фінансавай сістэмы ўсіх узроўняў даручана забяспечыць безумоўнае выкананне патрабаванняў кіраўніка дзяржавы, урада рэспублікі аб устанаўленні дзейснага кантролю за расходаваннем сродкаў.

Міністр фінансаў Мікалай Корбут прапанаваў стварыць фонд фінансавай стабілізацыі, у якім будуць акумуліравацца як дадатковыя расходы бюджэту, так і добраахвотныя ўзносы суб'ектаў гаспадарання ўсіх формаў уласнасці, сродкі якога пойдуць на адрасную падтрымку малазабяспечаных слаёў насельніцтва.

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ,**
**кіраўнік прэс-службы Міністэрства фінансаў.**

## АХВЯРЫ ХАЛАДЭЧЫ

**Першыя ж маразы, якія ўсталяваліся ў рэспубліцы, моцна ўдарылі па бамжах. Напрыклад, на Гомельшчыне іх ахвярамі сталі чатыры чалавекі — адзін у Буда-Кашалёўскім раёне і трое (у тым ліку і жанчына) у абласным цэнтры. Усе былі знойдзены на дарогах ці на аўтобусных прыпынках з яўнымі прызнакамі пераахалоджання.**

Не ўдалося ўратаваць і інтэлігентнага выгляду мужчыну, асоба якога не высветлена і якога знайшлі ў Гомелі на вуліцы Малайчука і даставілі ў бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі. Аказалася, што ён недзе добра выпіў і паваліўся на вуліцы, дзе мароз і зрабіў сваю справу: мужчына так і не прыйшоў у бальніцы ў прытомнасць.

Маразы садзейнічаюць і крымінагеннай абстаноўцы: пачалося інтэнсіўнае здзіранне шапак у тых, хто позна вяртаецца дадому і не можа фізічна абараніць сябе ад нападаў зламыснікаў.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ДЗВЕ ГВАЛТОЎНЫЯ СМЕРЦІ Ў ГОРАЦКІМ РАЁНЕ

У Горацкім раёне ў лесе, што за некалькі кіламетраў ад вёскі Сахараўка, быў знойдзены труп 18-гадовай дзяўчыны, жыхаркі раённага цэнтра. На целе — сляды ўдушэння. Вядзецца следства, аднак у яго інтарэсах паведаміць карэспандэнту якія-небудзь падрабязнасці расследавання ў раённай пракуратуры пакуль адмовіліся.

У наступны дзень у самім горадзе Горкі ў адным з дамоў быў знойдзены труп 70-гадовай пенсіянеркі з сечанай ранай галавы. Як высветліла следства, жанчына раптоўна вырашыла наведаць дом свайго пляменніка, а, на бяду, у гэты час там знаходзіўся злодзей, які і ўдарыў бедную жанчыну сякерай па галаве. Забойца, 22 гадовы непрацуючы з вёскі, супрацоўнікамі міліцыі затрыманы.

**Ілона ІВАНОВА.**

## АСНОЎНЫЯ ПАРУШАЛЬНІКІ — У НЕДЗЯРЖАЎНЫМ СЕКТАРЫ

**Работнікамі інспекцый Дзяржаўнага падатковага камітэта за 9 месяцаў праверамы 41.193 прадпрыемствы і 81190 прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы.**

Як паказалі праверкі, 64,8 працэнта прадпрыемстваў і 48,7 працэнта прадпрымальнікаў дапусцілі парушэнні заканадаўства аб падатках і прадпрымальніцтве. Адпаведна, даналічана падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў, прыменена фінансавых санкцый на суму 22,2 трыльёна рублёў, пры гэтым 21,9 трыльёна рублёў прыпадае на юрыдычных асоб, 321 мільярд — на прадпрымальнікаў. З агульнай сумы даналічаных па юрыдычных асобах плацяжоў і фінансавых санкцый каля 89 працэнтаў прыпадае на прадпрыемствы недзяржаўнага сектара эканомікі.

Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 86.677 асоб з прымяненнем да іх штрафаў на суму 61,8 мільярда рублёў.

## ТЫДЗЕНЬ НА ДЫЯЛОГ?

Як стала вядома «Звяздзе», прадстаўнікі чатырох буйнейшых прафсаюзаў прамысловасці (абароннай, аўтасельгасмаша, радыёэлектронікі, машына- і прыборабудавання), а таксама прафсаюза работнікаў Акадэміі навук выказалі намер правесці 2 снежня ў Мінску масавае шэсце і мітынг з патрабаваннямі забяспечыць работу прадпрыемстваў, спыніць рост цэн і павысіць зарплату. Папярэдне чакаецца, што агульная колькасць удзельнікаў акцыі дасягне 30 тысяч чалавек.

Не выключана, што ў бліжэйшы час да акцыі 2 снежня могуць далучыцца іншыя галіновыя прафсаюзы краіны. У прыватнасці, днямі «ініцыятыву пяці» падтрымаў выканкам ФПБ, які адначасова заклікаў выказаць салідарнасць з патрабаваннямі прамыслоўцаў усе прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы Беларусі. Разам з тым пытанне, які рэзананс атрымае гэты заклік, пакуль застаецца адкрытым. Так, паводле інфармацыі прэс-службы ФПБ, тут атрымалі спецыяльную ўрадавую тэлеграму, у якой ідзе гаворка аб неабходнасці правесці сустрэчы прадстаўнікоў органаў дзяржаўнай улады і кіраўнікоў прафсаюзных арганізацый на ўсіх узроўнях і падчас гэтых сустрэч абмеркаваць эканамічную сітуацыю ў краіне. Плануецца, што падобныя кансультацыі пройдуць да 27 лістапада.

**Сяргей ГРЫБ.**

**УДАКЛАДНЕННЕ**

У нумары «Звязды» ад 24 лістапада ў заметцы «З 20 лістапада падаражэў газ» па тэхнічнай прычыне была допушчана памылка. Так, у дамах, дзе стаяць газавыя лічыльнікі, за 1 кубічны метр звадкаванага (а не прыроднага, як было надрукавана) газу прыйдзецца зараз плаціць 5775 рублёў. Што датычыцца прыроднага газу, то 10 кубаметраў яго з 20 лістапада каштуюць 21 тысячу 390 рублёў.

## ВІНШАВАННІ

*Дарагая, любімая мамачка і бабуля* ***Аляксандра Іванаўна ПЯТРОЎСКАЯ*** *з в. Суцін Пухавіцкага раёна, шчыра віншуем цябе з 75-годдзем.*

*Желаем, чтоб жизнь никогда не кончалась,*
*Беда и печаль на пути не встречалась,*
*Спокойствия в доме и смеха детей,*
*Здоровья, вниманья и солнечных дней.*

**Дзеці, унукі.**

*Сардэчна віншую з днём нараджэння любую ўнучку* ***Лізавету СІТКЕВІЧ*** *з г. Жодзіна. Жадаю здароўя, дабра, спакою, поспехаў у вучобе, шчасця ў жыцці.*

**Бабуля Клава,** п. Зялёны Бор.

*Шчыра віншуем з днём нараджэння дарагую і любую сястрычку* ***Алу Васільеўну СКАДОРАВУ*** *з г. Валожына. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, здзяйснення мараў і задум, дабрабыту ў жыцці.*

**Сястра Фаіна з сям'ёй.**

*Сардэчна віншуем любага бацьку і дзядулю* ***Івана Паўлавіча ДЗЯДЗЮШКУ*** *з 75-годдзем і з гэтай нагоды жадаем моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту, доўгіх гадоў жыцця.*

**Дзеці і ўнукі,** г. Мінск.

*Любую ўнучку* ***Святлану Уладзіміраўну КОЎЗАН*** *з в. Свідна віншую з 18-годдзем, жадаю моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, шчасця, радасці і ўсіх зямных даброт. Будзь заўсёды радаснай і вясёлай.*

**Бабуля Марыя** *з в. Такаўшчына.*

## МАГІЛЁЎСКІЯ ЎЛАДЫ ЎДАКЛАДНЯЮЦЬ «ПРАВІЛЫ РУХУ» НА СПАЖЫВЕЦКІМ РЫНКУ

**У Магілёве адбылося пашыранае пасяджэнне аблвыканкама, дзе былі абмеркаваны і прыняты дадатковыя меры па насычэнню спажывецкага рынку харчовымі і прамысловымі таварамі. Кіраўніцтва вобласці лічыць, што не мае права здаць тыя пазіцыі, якія давалі стабільны рост вытворчасці на 15—17 працэнтаў штогод, а таму ў новых умовах абвалу ў Расіі і нестабільнасці нацыянальнай валюты трэба выпрацаваць новыя «правілы руху», якія дазволілі б выканаць сёння тры самыя галоўныя задачы: накарміць, апрануць і пралячыць людзей.**

Яшчэ ў верасні для абароны спажывецкага рынку ад незаконнага вывазу тавараў за мяжу ў Магілёўскай вобласці быў прыняты шэраг мераў: уведзены нормы водпуску тавараў, дзённыя нормы рэалізацыі ў магазінах, абмежаванні па безнаяўных разліках за тавары, адбыліся і некаторыя змяненні цэн, каб не дапусціць «агалення» спажывецкага рынку. Аднак у сённяшняй сітуацыі пералічанага зусім недастаткова.

Рэзка павялічыўся попыт на танныя харчовыя тавары першай неабходнасці. Доўгія чэргі ў магазінах абласнога цэнтра стаяць, калі ў асартыменце з'яўляюцца масла, цукар ці яйкі, зноў у разрад дэфіцытных прадуктаў трапіў тварог, малака і кефіру хапае звычайна толькі на лічаныя гадзіны гандлю. І, дарэчы, малако, якое прадаецца магіляўчанам, мае тлустасць толькі паўтара працэнта, а кефір — адзін працэнт, што звязана з рэзкім скарачэннем паставак малака. У Бабруйску ёсць праблемы са смятанай.

Не выратоўваюць становішча і нормы водпуску тавараў. Гэта абмежаванне нарадзіла новы від бізнесу для падлеткаў і пенсіянераў. За невялікую суму грошай ля магазіна можна «набыць» часовага сына ці якога іншага сваяка, каб атрымаць падвоеную норму прадукту. Каб набыць нейкія тавары ў запас, спажыўцы становяцца ў чэргі па шмат разоў — такое не забаронена. І гэты «фокус» людзі называюць «пенсіянерскім».

Таму нездарма упраўленне гандлю Магілёўскага аблвыканкама прапаноўвала ўвесці спісы ў сельскай мясцовасці і талоны ў гарадах на набыццё асобных відаў харчовых тавараў — перш за ўсё на цукар і масла. З гэтай прапановай не пагадзіўся губернатар вобласці Аляксандр Кулічкоў. Бо, па ягонаму меркаванню, сёння не тыя часы, калі можна рэгуляваць спажывецкі рынак праз жорсткую талонную сістэму.

— Абараняць можна тое, што ёсць, і яно можа з'явіцца толькі праз рэальную эканоміку, — адказаў на пытанне карэспандэнта «Звязды» аб галоўным у сістэме прымаемых абласнымі ўладамі мераў па выпраўленню становішча на спажывецкім рынку Аляксандр Кулічкоў. — Першае і галоўнае — пытанне стабілізацыі работы прамысловасці. Сёння нам скардзіцца, здавалася б, не трэба: 96 працэнтаў у супастаўных цэнах да 1990 года, але з улікам павышанага попыту на прадукцыю прамысловасці вобласці не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі, мы па-ранейшаму працягваем пастаўляць на «аслупаваны» расійскі рынак і, зразумела, недадаём сваім спажыўцам. Наша задача — не памяншаючы экспартных паставак, забяспечыць патрэбы свайго насельніцтва. Поспех справы я бачу ў сферы матэрыяльнай вытворчасці.

Адным з важных крокаў на гэтым шляху «вертыкаль» лічыць фінансавае аздараўленне суб'ектаў гаспадарання. Таму аднаўляе сваю работу камісія па ўзаемаразліках, створаная пры камітэце па эканоміцы. Членам камісіі трэба разабрацца з шматтрыльённымі заблытанымі ўзаемнымі запазычанасцямі пры дапамозе вэксальнай сістэмы ці шматступеньчатых разлікаў. Граматна выкарыстоўваючы крэдытныя рэсурсы, кіраўніцтва вобласці спадзяецца не толькі развязаць «вузел» неплацяжоў, але і падштурхнуць прадпрыемствы праз продаж сваёй прадукцыі ўвезці ў вобласць тавары крытычнага імпарту.

Сярод прапаноў, якія гучалі на пашыраным пасяджэнні Магілёўскага аблвыканкама, былі і больш радыкальныя: да прыкладу, выраўнаваць нашы цэны з расійскімі, адпаведна адрэгуляваўшы па цэнах і заработную плату рабочага чалавека, тэрмінова выраўнаваць курсы нацыянальнай валюты.

Губернатар Аляксандр Кулічкоў, насупраць, упэўнены, што «на коўзкай дарозе рэзкіх рухаў рабіць нельга — ні па цэнах, ні па курсу». Ён абяцае, што цана на хлеб масавых гатункаў застанецца нязменнай. А вось што датычыцца астатніх прадуктаў харчавання, лічыць кіраўнік Магілёўскай вобласці, то цана іх будзе паступова рухацца да рыначнай, а выраўноўвацца попыт і прапанаванне будуць не за кошт разавых датацый пад асобныя віды тавараў, а праз заработныя платы і пенсіі.

**Ілона ІВАНОВА.**

**СЁННЯ**

**СОНЦА**

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.56 | 15.58 | 8.02 |
| Віцебск – | 7.53 | 15.42 | 7.49 |
| Магілёў – | 7.45 | 15.47 | 8.02 |
| Гомель – | 7.37 | 15.51 | 8.14 |
| Гродна – | 8.12 | 16.13 | 8.01 |
| Брэст – | 8.04 | 16.22 | 8.18 |

**МЕСЯЦ**

**Першая квадра — 27 лістапада.**

***З 12.23 — 9-ыя месяцавыя суткі. З 18.15 Месяц — у сузор'і Рыбаў.***

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Антаніна, Германа, Івана, Нікіфара**
**К. Кандрата, Леанарда, Лявона, Сільвестра**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, у паўднёвых раёнах невялікі снег. Вецер паўночна-ўсходні, 3—8 м/сек. Тэмпература паветра ў Мінску, Віцебску, Магілёве — 6—8, Гродне, Брэсце, Гомелі — 5—7 градусаў ніжэй нуля.

У наступныя двое сутак у заходніх раёнах пройдзе невялікі снег. Вецер усходні, 3—8 м/сек. Тэмпература ўначы — 11—16, па паўночнаму ўсходу да 19, удзень — 4—9; на захадзе рэспублікі ўначы — 6—11, удзень — 2—7 градусаў марозу.

**Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і супрацоўнікі Сакратарыята выказваюць глыбокае спачуванне начальніку Галоўнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Сідаровічу Іосіфу Міхайлавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.**

**Калектыў «Звязды» глыбока смуткуе з выпадку смерці сваёй былой супрацоўніцы СУХАНАВАЙ Людмілы Цімафееўны і выказвае шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.**

## Інфармацыйнае паведамленне аб правядзенні 28 снежня 1998 г. аўкцыёну па продажы аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці з выкарыстаннем метаду паніжэння пачатковай цаны

1. Аўкцыён адбудзецца 28 снежня 1998 г. у 11.00 па адрасу: г. Мінск, вул. Мяснікова, 39, малая зала, 2-гі паверх.

2. Для ўдзелу ў аўкцыёне запрашаюцца юрыдычныя асобы ўсіх формаў уласнасці і фізічныя асобы.

3. Для ўдзелу ў аўкцыёне неабходна ў тэрміны, указаныя ў інфармацыйным паведамленні, прадставіць у адрас арганізатара аўкцыёну (Міндзяржмаёмасць) наступныя дакументы:

— заяву на ўдзел у аўкцыёне;

— копіі ўстаноўчых дакументаў, завераныя натарыяльна альбо органам, які ажыццяўляе рэгістрацыю (для юрыдычных асоб);

— завераныя банкам копіі плацежных даручэнняў, якія пацвярджаюць унясенне:

а) залогу ў суме 111,0 млн. руб. Унясенне залогу дае права на ўдзел у таргах па ўсіх выстаўляемых на аўкцыён аб'ектах;

б) спецыяльнага збору за падачу заявы ў памеры 4-х мінімальных заработных плат;

в) платы за рэгістрацыю ў памеры 1/4 мінімальнай заработнай платы.

Грашовыя сродкі пералічваюцца на разліковы рахунак Міндзяржмаёмасці № 3622000000905 у ОПЕРУ ААБ «Беларусбанк» у г. Мінску, код 795.

Пры падачы заявы асоба, якая жадае прыняць удзел у аўкцыёне, падпісвае з Міндзяржмаёмасцю Пагадненне аб правах і абавязках бакоў у працэсе падрыхтоўкі і правядзення аўкцыёну.

Пры падачы заявы прадстаўнік юрыдычнай асобы павінен мець пашпарт, даверанасць на ўдзел у аўкцыёне і на падпісанне дакументаў; фізічная асоба — пашпарт; прадстаўнік фізічнай асобы — пашпарт і натарыяльна завераную даверанасць.

**Заявы з усімі неабходнымі дакументамі на ўдзел у аўкцыёне прымаюцца па адрасу: г. Мінск, вул. Мяснікова, 39, пакой 642 з 9.00 да 17.00 у рабочыя дні па 24 снежня ўключна. Кантактныя тэлефоны арганізатара аўкцыёну: 220-88-47; 226-48-41.**

4. Аплата за аб'ект ажыццяўляецца па безнаяўнаму разліку ў беларускіх рублях.

5. У выпадку перамогі на аўкцыёне пераможца абавязаны кампенсаваць затраты на падрыхтоўку і правядзенне аўкцыёну ў памеры 4 працэнтаў пачатковай цаны аб'екта.

6. Сума кампенсацыі затрат пералічваецца на разліковы рахунак, указаны ў пратаколе аб выніках аўкцыёну.

7. Усім жадаючым удзельнічаць у аўкцыёне прадастаўляецца магчымасць папярэдне азнаёміцца з аб'ектамі ў тэрмін да 24 снежня 1998 г.

***Пералік аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці, выстаўляемых на аўкцыён 28 снежня 1998 г. з выкарыстаннем метаду паніжэння пачатковай цаны***

| № п/п | Назва аб'екта | Прадавец і яго юрыдычн адрас | Месцазнаходжанне і адрас аб'екта | Кароткая характарыстыка аб'екта | Агульная плошча, м2 | Плошча займаемага зямельнага ўчастка, га (наяўнасць рашэння аб адводзе зямлі) | Пачатковая цана продажу, млн. руб. | Мінімальная цана продажу млн. руб. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Не завершаны будаўніцтвам будынак бібліятэкі | Гомельскі радыёзавод імя 60-годдзя СССР; г. Гомель, вул. Аб'язная дарога, 2 | г. Гомель, пр. Кастрычніка, 28а | 2-павярховы будынак, прыбудаваны да 16-павярховага жылога дома ў архітэктурна-індывідуальным выкананні тыпу цырка | 889,5 | 1,56 Акт на права карыстання зямлёй ёсць. Рэг. № 1034 ад 28.11.88 г. | 1 853,0 | 926,5 |
| 2. | Будынак былога арматурнага цэха | СПМК-3 Баранавічы, вул. Вільчкоўскага, 77а | г. Баранавічы, 2-гі завулак Вільчкоўскага, 42 | 1-павярховы цагляны будынак з ж/б плітамі перакрыцця, бетоннай падлогай і сумешчаным рулонным пакрыццём | 287,0 | 0,68 Рашэнне Баранавіцкага гарвыканкама аб адводзе зямлі № 1509 ад 16.09.97г. | 368,189 | 294,551 |

